

# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднойлена ў 1997 годзе.*

№ 4 (85). 21 — 27 студзеня 1999 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт свабодны

ЗДАРЭННІ

## МІНІРАВАЛІ БІБЛІЯТЭКУ...

**У нядзелю ў 11 гадзін невядомы патэлефанаваў у цэнтральную слонімскую гарадскую бібліятэку і паведаміў, што ў будынку бібліятэкі закладзена бомба.**

Перапалоханыя супрацоўнікі паведамілі пра гэта ў міліцыю. Прыбыўшыя работнікі аддзела ўнутраных спраў старанна агледзелі ўсе памяшканні бібліятэкі, аднак нічога падобнага на выбуховае прыстасаванне не знайшлі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ...І ЗНОЎ СЛОНІМСКІ ВАКЗАЛ

**У панядзелак, 18 студзеня, чацвёрты раз "мініравалі" слонімскі вакзал.**

Пакуль сапёры шукалі міну, міжгароднія і прыгарадныя аўтобусы спыняліся каля магазіна "Усход", а гарадскія аўтобусы рухаліся па іншых, аддаленых ад вакзала, вуліцах.

Выбуховага прыстасавання на вакзале зноў не аказалася.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



*Слонімскі вакзал 18 студзеня 1999: ачэплены міліцыяй*

### Выбух у пад'ездзе

**Днямі на 5-ым паверсе аднаго з дамоў на вуліцы Пушкіна прагрымеў выбух.**

Спалоханыя жыхары выклікалі пажарных. Высветлілася, што невядомыя кінулі на лесвічнай пляцоўцы петарду. У выніку – абгарэла рама акна.

### Пакатаўся і кінуў

**Ноччу ад дома №108, што на вуліцы Косаўскі тракт, быў угнаны "Масквіч-412".**

Раніцай аўтамабіль быў знойдзены на дарозе каля вёскі Жыровічы. Яго вярнулі ўладальніку. Міліцыя шукае ўгоншчыка.

### Нажом у шыю

**У раённую бальніцу з нажавым раненнем у шыю была дастаўлена сланімчанка М.**

Пацярпелая паведаміла, што яе ўдарыў нажом былы муж, з якім яна жыве разам у адной кватэры на "Энцы".

Урачы выратавалі жыццё жанчыны, а міліцыя займаецца высвятленнем абставінаў, пры якіх яна атрымала раненне.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Застаўся без сала і машыны

**Супрацоўнікі слонімскай міліцыі затрымалі грамадзяніна Украіны.**

Ён скупіў у Слоніме 303 кг сала і хацеў незаконна вывезці яго на сваіх "Жыгулях" за межы Беларусі. Сала і аўтамабіль канфіскаваны ў даход дзяржавы.

А ўвогуле, за мінулы год супрацоўнікі аддзялення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю прадухілілі незаконны вываз за межы рэспублікі 42125кг ялавічыны і 18048кг свініны на суму 5.796 млн.руб., а таксама 62 галавы буйной рагатай жывёлы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ЭКОНОМИКА

## ФИНАНСЫ ПОЮТ РОМАНСЫ

Знакомство с показателями бюджета на 1999 год позволяет увидеть две его особенности. Первая состоит в том, что приходная часть бюджета будет формироваться в основном за счет косвенных, а не прямых налогов. Так, налог на добавленную стоимость (НДС) обеспечит аж 28% доходной части бюджета, плюс акцизные сборы дадут 21,8% в приходную часть. Эти два косвенных налога должны обеспечить половину приходной части государственного бюджета. Что касается налога на прибыль (в здоровой экономике именно он должен быть на первом месте в приходе), то, к сожалению, в нашей стране он занимает только третье место.

Вторая особенность проявляется в необычно высоких темпах роста доходной части бюджета (в 2,8 раза), что отражает не мощь и силу бюджета, а чрезмерную его слабость. На какой основе и за счет каких средств будет расти бюджет, если в соответствии с планом-прогнозом прирост промышленной продукции составит в 1999 году 4-5%?

Анализ показывает, что ставка сделана на инфляцию, которая внесла свои коррективы в бюджет ушедшего года. Так, по итогам 10 месяцев 1998 года, доходная часть бюджета была выполнена только на 81%. Министерство финансов начало вводить ограничения в расходы. И вдруг, после того как инфляция в сентябре и ноябре достигла 17-25% в месяц, ситуация с доходами бюджета коренным образом изменилась. Повысились цены, возросли отчисления на НДС, другие поступления в бюджет. И уже 22 декабря председатель Государственного налогового комитета Н.Демчук доложил президенту о том, что по состоянию на 21 декабря доходная часть бюджета за год выполнена на 100,1%. И в этом никто не сомневался: на бюджет работала инфляция.

В правительстве тенденцию роста инфляции в наступившем году положили в основу определения доходной части бюджета. Поэтому она и возрастет на 280%. Именно инфляционная наценка лежит в основе дутого, т.е. номинального, роста приходной части бюджета.

Доходная часть бюджета, определяемая дальнейшим ростом цен, в свою очередь через расходную часть бюджета будет питать инфляцию и в нынешнем году.

**Владимир КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор**

НАВІНЫ

### Ці будзем з хлебам?

**Сённяшніх запасаў збожжа хопіць толькі да сакавіка.**

Па словах старшыні камітэта хлебапрадуктаў мінсельгасхарчу Міхаіла Петрашкевіча, да новага ўраджаю Беларусі трэба набыць яшчэ каля 300 тысяч тон пшаніцы і 800 тысяч тон фуражнага збожжа.

Летась урад на закупку пшаніцы для выпечкі хлеба выдзяліў 7,5 млн.долараў. Аднак купленага на гэтыя грошы збожжа ўсё роўна не хапіла.

**БелаПАН**

### Пікет у абарону незалежнасці

**Улады Мастоў дазволілі мясцовым прадстаўнікам палітычных партый БСДП і БНФ правесці 23 студзеня пікет ў абарону незалежнасці і самастойнасці Беларусі.**

Плануецца, што пікет адбудзецца на пляцоўцы каля гарадскога стадыёна "Нёман".

**Іван МІЛАСНІЦКІ**

### Супраць дыктатуры і збяднення

**Слонімская Рада БНФ "Адраджэнне" падала заяўку ў гарвыканкам на правядзенне 23 студзеня 1999 года з 12 да 14 гадзін пікета ў скверы на Першамайскай вуліцы (каля танка).**

Ініцыятары пікета такім чынам планавалі выступіць у абарону незалежнасці Беларусі, супраць дыктатуры і збяднення людзей.

Аднак мясцовыя ўлады забаранілі пікет па прычыне "так как при проведении пикета 13 декабря 1998г. его участники использовали плакаты, унижающие честь и достоинство должностных лиц государства".

**Іван БЕДКА**

### Прайшоў з'езд журналістаў

**У Мінску прайшоў трэці справаздачны з'езд Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ).**

У гэтую асацыяцыю цяпер уваходзіць 570 журналістаў, якія прадстаўляюць больш за 100 выданняў.

Са справаздачным дакладам на з'ездзе выступіла прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна. Яна, у прыватнасці, адзначыла, што ў "Беларусі ідзе знішчэнне журналісцкай прафесіі", што ўлады ўстанавілі манаполію на інфармацыю.

Кіраўнік БАЖ паведаміла таксама аб дасягненнях у кансалідацыі беларускіх журналістаў з міжнароднымі арганізацыямі, аб яднанні журналістаў у межах рэспублікі.

Ад "Газеты Слонімскай" у з'ездзе прымаў удзел Сяргей Чыгрын, які, дарэчы, быў абраны ў склад журы па вызначэнню лепшых журналістаў года.

**Наталля ФУРСАВА**

### Пераможцы агляду

**Падведзены вынікі абласнога агляду калгасных машынных двароў.**

Першае месца прысуджана Слонімскаму райсельгасупраўленню, трэцяе – Дзятлаўскаму. Сярод гаспадарак лепшым прызнаны калгас "Ленінец" Мастоўскага раёна. Усе пераможцы ўзнагароджаны ганаровымі граматамі і грашовымі прэміямі.

Адзначана таксама станоўчая работа ў арганізацыі абласнога агляду машынных двароў Зэльвенскага сельгасупраўлення і калгаса "1 мая" Слонімскага раёна.

**Б.П.**

НАДВОР'Е

**21 января** переменная облачность, без осадков, местами туман и гололедица, ветер южный 3-8м/с, температура воздуха ночью 0, -5, днем 1-6 градусов тепла.

**Удакладненне**

У № 3 "ГС" (14-20 студзеня 1999 г.) была надрукавана цытата са "Слонімскага весніка" (№ 3, 7 студзеня 1999 г.) з недакладнасцю. Таму мы зноў яе змяшчаем у арыгінале:

"Перадпавагодняя прамая тэлефонная лінія, якую правёў райвыканкам сумесна з раённым спажывецкім таварыствам, выяшала праблемныя пытанні гандлёвага абслугоўвання сельскага насельніцтва...

З вёскі Бракава, напрыклад, пазванілі і папрасілі, каб аўталаўка прывезла расфасаваныя цукеркі-карамелькі. Іх просьба была задаволена..."

## АНОНС

Каб не жыць у галечы, патрэбна рабочая салідарнасць. Да такой высновы прыходзіць дэпутат гарадскога савета Міхась Варанец, разглядаючы вынікі звароту 26 рабочых Слонімскага МПМК-164 да прэзідэнта

... (стр. 2)

Як казаў Ленін, "промедление смерти подобно". Пра стан сельскай гаспадаркі разваяжае экс-старшыня калгаса "Рассвет" Эдуард Арочка

... (стр. 3)

Танкадром на брацкіх магілах. Малодшы лейтэнант Міхаіл Копелеў паведаміў свайму начальству гэтую страшную навіну, але яны яго не сталі слухаць

... (стр. 4)

Як беларускія спевакі зарабляюць на жыццё у Нямеччыне. Сваім досведам у інтэрв'ю "ГС" падзяліўся заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Якаў Навуменка

... (стр. 9)

Конкурс "Што б гэта значыла?" працягваецца. У гэтым нумары цікавыя чытацкія подпісы і новы фотаздымак

... (стр. 10)

Чым мы харчуемся? Толькі для чытачоў "ГС" — сістэма кодаў харчовых дабавак

... (стр. 11)

Шахматы — гульня, якой ужо дзве тысячы гадоў. Першае заданне шахматнага і шашачнага конкурсаў

... (стр. 12)

НАВІНЫ

### Для адпачынку моладзі

**Сёлета гарвыканкам выдзяліў 230 млн. рублёў на арганізацыю адпачынку моладзі.**

Сродкі пойдуць на правядзенне турыстычных злётаў, конкурсаў, свят і іншых масавых мерапрыемстваў. Летась на гэтыя мэты было выдаткавана ўсяго 35 млн. рублёў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ПРАШУ СЛОВА

# ХТО ДАПАМОЖА РАБОЧАМУ?

Рабочыя слонімскай будаўнічай арганізацыі МПМК-164 спадзяваліся на дапамогу прэзідэнта Лукашэнкі і на ягоных прадстаўнікоў у Слоніме. Менавіта да іх звярнуліся 26 працаўнікоў гэтага прадпрыемства "па прычыне цяжкага матэрыяльнага становішча, у сувязі з малымі заробкамі" (сярэднямесячны заробак па Слонімскаму МПМК-164 у верасні-лістападзе 1998 года склаў 4780,8, 4890,4 і 4987,3 тыс.руб. адпаведна).

"Цэны растуць кожны дзень, а заробак стаіць на месцы. Расцэнкі вельмі маленькія, яшчэ распрацаваныя ў 1991 годзе, а норма выпрацоўкі засталася ранейшая і нават павысілася. Як нам далей жыць?" — пісалі людзі ў сваім лісце.

З адказу генеральнага дырэктара "Гроднааблсельбуд" В.А.Несцерава рабочыя даведаліся, што ў сваім бядотным становішчы вінаватыя яны самі, так як "заробак у МПМК-164 выплочваецца ў залежнасці ад зробленай працы і кваліфікацыі рабочага". Высвятляецца, што начальства тут ні пры чым: "Для павышэння ўзроўню аплаты працы ў МПМК-164 прымаюцца ўсе меры, якія залежаць ад адміністрацыі".

Начальнік параіў, што "палепшыць умовы жыцця і даходы можна толькі пры павышэнні вытворчасці працы".

Але ці варта крыўдаваць і апеляваць да начальнікаў. Зараз начальнікі выконваюць загад А.Р.Лукашэнкі дасягнуць узроўню 1990 года і, калі верыць слонімскім уладам, то гэтага ўзроўню ўжо амаль дасягнулі (пэўна, за выключэннем 26 рабочых МПМК-164, якія трошкі адсталі...).

Мяркую, каб не жыць у галечы, патрэбна рабочая салідарнасць. Вядома ж, адзін у полі не воін. Толькі аб'яднаныя у незалежныя ад дзяржавы структуры (прафсаюзы, палітычныя партыі), рабочыя здолеюць эфектыўна змагацца за свае канстытуцыйныя правы на годнае жыццё. Толькі пад ціскам рабочага руху можа быць сфарміравана палітычная і эканамічная сістэма, здольная забяспечыць дабрабыт грамадзян і свабоднае развіццё асобы.

**Міхась ВАРАНЕЦ,**
**дэпутат Слонімскага гарсавета**

## Ой, рабіна, "Рабіначка"

**Больш як 400 слонімцаў прыйшлі ў мінулую нядзелю на справаздачны канцэрт народнага вакальнага ансамбля раённага дома культуры "Рабіначка".**



У рэпертуары ансамбля беларускія, украінскія і рускія народныя песні. Слонімскіх артыстаў "Рабіначкі" ужо ведаюць не толькі ў Слоніме, але і ў Дзятлаве, Баранавічах, Мастах і Зэльве.

**Валянцін ЧУРЫЛА (фота аўтара)**

НАВІНЫ

## У вас гора...

**21 студзеня ў Мастах пачынае працаваць тэлефон здароўя.**

Кожны чацвер з 10 да 13 гадзін можна будзе атрымаць кансультацыі псіхатэрапеўта і псіхіятра па ўсіх пытаннях, што вас цікавяць.

Калі ў вас стрэс ці проста няма настрою, гора, чорны дзень ці непаразуменне дома, з калегамі на рабоце — пазваніце па тэл. 2-10-68 і кваліфікаваныя спецыялісты дапамогуць вам.

**Антон МАКЕЙ**

## Музычныя дыпламанты

**У Лідзе адбыўся абласны музычны фестываль "Новыя імёны", у якім прымалі ўдзел выхаванцы Слонімскай музычнай школы.**

Дыплом ІІ ступені ў класе домры заваяваў вучань 2-га класа музычнай школы Сяргей Езапчук (выкладчык Жана Дуброўская). У класе скрыпкі дыпломамі ііі ступені ўзнагароджаны юныя музыканты Хрысціна Кедук і Алена Чурыла (выкладчык Таццяна Бойка).

**Наталля МАЗЕЦ**

## Гаспадар той, хто багацейшы

**Неўзабаве Дзятлаўская падатковая інспекцыя справіць наваселле ў аднапавярховым будынку, што па Чырвонаармейскай вуліцы.**

Раней ён належаў райбыткамбінату. Тут вышывалі дываны, ручнікі, навалачкі, шылі рабочую вопратку. У сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам прадпрыемства скарацілa вытворчасць і будынак перашоў да другога гаспадара.

## Страцілі два мільярды рублёў

Летась у аўтаварыях, якія здарыліся на дарогах Дзятлаўшчыны, страты ад пашкоджання транспартных сродкаў склалі амаль два мільярды рублёў.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Белорусы самые трудолюбивые и добрые

**В результате социологического опроса, проведенного накануне нового года во всех странах Европы, наиболее пессимистично представляется 1999 год жителям Беларуси.**

Их оценки своего будущего оказались самыми низкими на субконтиненте. Такие сведения сообщил участникам семинара «Пресса в зеркале социологии», который состоялся 13 января в Минске, директор социометрической лаборатории «Новак» Андрей Вардомацкий.

Было отмечено, что при определении базовой характеристики национального белорусского характера чаще всего используются три следующих качества: толерантность, трудолюбие и доброта. Причем первая характеристика — толерантность — встречается чаще всего.

## Нас всех перепишут

**Предварительные итоги переписи населения Беларуси, которая пройдет с 16 по 23 февраля, будут подведены в марте, окончательные — в октябре 1999 года.**

Заполнение переписных листов начнется в 8 часов утра 16 февраля специально обученными счетчиками. Запись сведений в переписные листы производится со слов опрашиваемых без предъявления ими какихлибо документов. С 11 по 14 февраля счетчики совершат предварительный обход участков, во время которого согласуют с гражданами удобное время для посещения их на дому. После окончания переписи будет проведен выборочный контрольный обход всех счетных участков с охватом в каждом из них 10 процентов жилых помещений.

Полученная от граждан информация будет строго конфиденциальна и при обобщении обезличивается. К тем гражданам, которые все же опасаются разглашения сведений и намерены уклониться от переписи, никаких штрафных санкций применяться не будет.

**БелаПАН**

## Автомобиль травит атмосферу

**На автомобильный транспорт в Беларуси приходится 78,5% всех выбросов в атмосферу.**

Несмотря на существенный рост в последние годы парка личных автомобилей, объем выбросов от транспорта и других передвижных источников остается в Беларуси практически неизменным, а выбросы от стационарных источников, по сравнению с 1990 годом, уменьшились более чем вдвое. Среди мер, способствовавших этому, начальник инспекции назвал, в частности, то, «чего не осилили ни в России, ни в Украине» — белорусские нефтеперерабатывающие заводы полностью перешли на выпуск неэтилированного бензина, не содержащего вредных свинцовых добавок.

**БелаПАН**

ЭКАЛОГІЯ

# ЯКІ КОШТ КРЫНІЧНАЙ ВАДЫ?

Унікальнае месца выбралі нашы продкі, каб будаваць Слонім. Яны шукалі такія мясціны, дзе ёсць вада, добрая зямля, вялікія лясы. Вось і спыніліся ў тым месцы, дзе сустракаюцца рэкі Шчара і Іса. Тут былі заліўныя лугі і лес, і рыба. А колькі вакол нашага горада крыніц!

Альбярцін, Чамяры, Тапалёвая вуліца, Энка, Панасоўка. Гэта ўсё крыніцы. Некалі ў празрыстых крынічных водах Ісы, Лахозвы, Валобрынкі было шмат рыбы: каралеўская стронга (фарэль), ласось і асяцёр. Гэтая рыба мела сваё нерасцілішча ў Лахазве, Ісе. У Шчары вылаўлівалі 8-мі пудовыя рыбіны (апошні раз у 1936 годзе, глядзіце кнігу П. Жукава "Рыбы басейна Нёмана", Мінск, 1958 г.)...

Крынічная вада ў цяжкі час не толькі поіць, але і корміць. Успамінаю пасляваенныя 1944-47 гады. У Слоніме водапровод быў разбураны, усе дамы ў цэнтры горада згарэлі. Але было шмат крыніц і два аўтаномныя водапроводы, якія існавалі з даваенных часоў і запітвалі вуліцы Пушкіна, Падгорную (цяпер — Сінічкіна), Студэнцкую (Хлюпіна), Замкавую (Камсамольскую), Татарскую (Кірава), Рыбацкую (Давыдзюк). У дамы на гэтых вуліцах вада паступала самацёкам з калодзежаў на Панасоўцы. Такі самы аўтаномны калектар зрабіў Гуральскі на вуліцы Падгорнай, і вада з калодзежаў на гары паступала на Вішнёвы завулак і ў іншыя дамы.



Мы, хлапчукі, гэта ведалі. І ў тыя пасляваенныя гады, летам у час спякоты, прадавалі крынічную ваду — "рубель напіцца". Прадавалі на рынку, што тады быў на Ружанскай вуліцы. Ведалі, дзе можна было ўзяць крынічную ваду, і рабілі свой "бізнес". За дзень я зарабляў на буханку хлеба, а яна тады каштавала 100 рублёў. Пілі людзі чыстую крынічную ваду, плацілі грошы і дзякавалі. Такой чыстай вады ў Слоніме ўжо няма. Згубілі!

Чаму ж так здарылася? Чаму не зберaглі крыніцы, чаму іх бязлітасна знішчалі? Цяжка мне адказаць на гэтае пытанне. Можа таму, што ў горадзе не было сапраўднага гаспадара, разважлівага і разумнага? ...

Калісьці ў слонімскія дамы вада ішла самацёкам па водапроводах, а цяпер яе з нізкіх свідравін у Рышчыцах паднімаюць у 9-ці павярховыя дамы на вуліцах Тапалёвай, Яршова, Брэсцкай. Днём і ноччу гудуць насосы. Праўда, здаецца, ужо зразумелі памылку і цяпер плануецца здабываць ваду пад Новай Стражай, каб яна ішла ў нізіну, у Слонім. Дай Бог, каб так і было. Каб болей не ішла з нашых кранаў іржавая, але дарагая вада. Бывае так, што Бог забірае розум, і людзі качаюць ваду знізу ўверх. Але здараецца, што чалавек, нарэшце, разумее, што вада сама можа цячы ўніз.

Але не ўсе яшчэ страчана. У Слонімскім раёне і сёння існуе шмат крыніц, а гэта ж бясцэннае багацце! Скандынавы сваю крынічную ваду прадаюць за мяжу, у Францыю, Іспанію. А мы чым горшыя за іх?

Наш горад вырас, патрабуе ўсё больш і больш электраэнергіі. Але дзе яе ўзяць? Паглядзіце, як круглыя суткі гудзе вада на возеры ў Альбярціне. Гэтая вялікая сіла вырасла з крыніц, толькі чаму яе ніхто не выкарыстоўвае? Раней усе млыны ў Слонімскім раёне былі на вадзе! Думаю, што пара ўжо задумацца і выкарыстоўваць тое, што ляжыць пад нагамі. Продкі нашы так і рабілі, а мы не хочам. Можа багата жывем?

І апошняе. Лічу, што ўсе слонімскія крыніцы павінны быць узяты на ўлік і ахоўвацца. Каб не ператваралася наша багацце ў адстойнікі бруду. Як здарылася з крыніцамі чыстай вады ў мікраёне Энка. Туркам было ўсё роўна. Але куды глядзелі мы?!

**Вячаслаў СЦЯПУРА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэцкая, 109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 20 студзеня 1998г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.200 экз. Заказ №164
© «Газета Слонімская». Спасылка на "ГС" абавязковая
® Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

НАША ІНТЭРВ'Ю

# "ЛЕПШ ПОЗНА, ЧЫМ НІКОЛІ"



**Сёння на пытанні карэспандэнта "ГС" адказвае ветэран калгаснай вытворчасці Эдуард Арочка.**

***— Усе мы бачым і адчуваем крызісны стан сельскай гаспадаркі, калгасаў і саўгасаў. У свой час Вы кіравалі калгасам "Рассвет" на працягу 21 года. Выкажыце свае меркаванні аб далейшым лёсе беларускай сельскай гаспадаркі.***

— Перспектыва нашай сельскай гаспадаркі незавідная. Справа ў тым, што даўно патрэбны карэнныя рыначныя рэформы. Ніхто з кіраўнікоў рэспублікі адкрыта не выказаўся супраць, але і нічога не рабілася ў гэтым напрамку. Калгас нашай мадэлі (за невялікімі выключэннямі) не можа ўпісацца ў рынкавыя адносіны, не можа канкураваць з фермерам і з другімі галінамі эканомікі.

Нават у СССР, маючы найлепшыя ў свеце прыродныя варункі для сельскай гаспадаркі, калгасны лад не здолеў накарміць насельніцтва краіны і забяспечыць сыравінай прамысловасць.

Большасць савецкіх калгасаў былі стратнымі. Ім выдаваліся ссуды, а пасля — спісваліся. Заўсёды не хапала ў краіне мясных і малочных прадуктаў. 30-35 млн. тон зерня штогод закуплялася за мяжой. У нас у БССР становішча было лепшае, галоўным чынам, за кошт заходніх абласцей і раёнаў Беларусі.

***— Якія, на ваш погляд, галоўныя прычыны нізкай эфектыўнасці калгасаў і асабліва ў рыначных умовах?***

— Прычын шмат, але спынюся на некаторых.

Першая — надзвычай вялікі ўпраўленчы персанал калгаса. Гэта тыя, хто кіруе, іх намеснікі і памочнікі, хто піша, лічыць, плануе, рыхтуе справаздачы, мерыць, важыць, прымае і г. д. Амаль усе яны маюць магчымасць нешта скамбінаваць на карысць сабе ці сваіх блізкіх. Больш налічыць, больш выдаць, адвярнуцца, калі сусед бярэ.

Зразумела, усё гэта падрывае давер да сістэмы ў 30% працэнтаў сапраўды працуючых калгаснікаў, не спрыяе іх добрасумленным адносінам да працы.

Другую прычыну можна выказаць адной фразай: у калгасе ўсё наша і не наша. У вельмі рэдкіх выпадках чалавек нешта ўкрадзе ў суседа. А ў калгасе можна браць — гэта не грэх, не ганьба. І бяруць — сена, сілас, муку, малако з ферм, зерне з такоў, здымаюць калёсы з сельгасмашын і робяць вазы, здымаюць электрарухавікі і ставяць на свае сячкарні... Усё патрэбна сабе або суседу за бутэльку. Калгаснае дабро раскідана на вялікай тэрыторыі. Многія бяруць і нічога не баяцца. Могуць сказаць старшыні, брыгадзіру, аграному: "А ты сам, святы?".

Безадказнасць. У калгасе вельмі цяжка вызначыць, хто вінаваты, калі здыхае жывёла, калі нешта згарэла, не ўзышло ці проста расцягнулі. На ўсё знаходзяцца аб'ектыўныя прычыны, і рашэнне адно — спісаць.

Раней яшчэ можна было знайсці вінаватага і пасадзіць у турму. А калі старшыня, як кажуць, дабе калгас да ручкі, яго могуць зняць з пасады, але матэрыяльную адказнасць ён не панясе, бо ім кіравалі з раёна.

За дзесяцігоддзі ў калгаснікаў выпрацавалася абыякавасць да спраў у калгасе, апатыя. На справаздачна-выбарчых сходах мала хто слухае даклады. Пры выбарах праўлення выстаўляюць кандыдатамі абы-каго, галасуюць за ўсіх разам. Сход можа стаць у абарону старшыні, калі ён для ўсіх "добры", не карае, не хоча бачыць, як крадуць і п'юць.

Звычайна не супадаюць загады кіраўніцтва зверху і калгасная ініцыятыва.

Гэтыя і многія іншыя адмоўныя рысы калгаснага ладу ў большай ці меншай ступені праяўляюцца ва ўсіх гаспадарках. Яны маглі быць проста незаўважаны ў 70-80 гады, калі на сельскую гаспадарку працавалі "нафтадолары", рабочыя, студэнты, салдаты, калі былі моцныя сувязі ў рамках СЭУ, калі дызпаліва, бензін і электраэнергія каштавалі капейкі, а дзяржава магла даваць пазыкі і потым іх спісваць.

Рынкавыя адносіны не цярпяць такой арганізацыі вытворчасці, безадказнасці і марнатраўства.

***— З чаго, на вашу думку, павінны пачацца рыначныя рэформы на вёсцы?***

— Пры жаданні ўсё магчыма, але трэба час. Мяркую, патрэбна неадкладна стварыць дзяржаўную камісію самага высокага ўзроўню з ліку вучоных і практыкаў сельгасвытворчасці. Камісія павінна вывучыць вопыт рэформ сельскай гаспадаркі ў суседніх краінах, улічыць іх поспехі і памылкі, прааналізаваць стан і магчымасці нашай дзяржавы ў справе рэфармавання аграсектара і выпрацаваць аптымальны для нас варыянт рэформ... Як казаў Ленін напярэдадні кастрычніцкага перавароту: "Промедление смерти подобно."

Некалі я выказаў свае прапановы, якія былі змешчаны ў газеце "Звязда". Некаторыя з іх хачу нагадаць зараз.

1.Безнадзейна збанкрутаваныя калгасы трэба рэарганізаваць у падрадныя прадпрыемствы па аказанню паслуг фермерам і насельніцтву па апрацоўцы зямлі, рамонту тэхнікі, забяспячэнню ГЗМ, угнаеннямі, сушцы збожжа і г. д. (умоўна іх можна назваць цэнтры МТС).

2.За МТС трэба пакінуць усю тэхніку і абсталяванне былога калгаса, а таксама склады запчастак, ГЗМ, збожжасклады, збожжасушыльныя комплексы.

3.Ні ў якім разе не дапусціць знішчэння, распродажу, спісання тэхнікі і іншай маёмасці былога калгаса, пакуль не закончыцца ўвесь працэс прыватызацыі.

4.Пры МТС трэба захаваць і асноўных спецыялістаў для аказання паслуг фермерам і насельніцтву.

5.Зямлю раздаць у арэнду ўсім жадаючым працаваць на ёй (у першую чаргу калгаснікам).

6.Знайсці аптымальную форму прыватызацыі (арэнды) жывёлагадоўчых ферм.

7.Распрацаваць расцэнкі і нарматывы, па якіх МТС будзе аказваць паслугі.

***— Як гэта будзе выглядаць на справе?***

— Селянін, фермер будзе ў МТС заказваць тэхніку на выкананне тых ці іншых работ, якія не зможа выканаць сваімі сіламі. Магчыма, некаторыя з іх часам купяць свой трактар, і тады паступова будуць абыходзіцца без паслуг МТС. Бо гаспадар будзе старацца больш работы выканаць сам, каб менш плаціць, а калі найме трактар, то сам пракантралюе якасць і колькасць зробленага. З часам усё будзе трансфармавацца. Адны фермеры будуць больш займацца вытворчасцю зерня і кармоў, другія — жывёлагадоўляй. Адны будуць прадаваць кармы, другія — купляць. Паступова знікне праблема забяспячэння фермераў тэхнікай. Але ж не ўсё адразу. Трактарыст, працоўчы выключна ў фермераў, будзе зацікаўлены больш зрабіць. Яму стане нявыгадна працаваць за бутэльку. Кожнае поле будзе мець гаспадара. У каго справа не пойдзе — прыйдзецца зямлю прадаваць іншаму.

Гэта мой агульны эскіз. Над ім трэба працаваць эканамістам-аграрнікам, юрыстам, каб вырашыць маёмасныя пытанні, распрацаваць прававыя акты, нарматывы, інструкцыі. Усё гэта зусім не проста, патрабуе часу і зацікаўленасці тых, у каго рэальная ўлада.

***— А ці возьмуць сяляне зямлю?***

— Думаю, некаторыя спецыялісты і лепшыя, працавітыя механізатары могуць узяць па 50-100 га, іншыя — ад двух да 10-15 га. Возьмуць зямлю тыя, хто будзе скарочаны з пасад у калгасе. Усё будзе залежаць ад атмасферы, створанай мясцовымі ўладамі, якія, на жаль, у большасці сваёй не хочуць рэформаў.

***— Мы гаворым, у асноўным, пра лёс збанкрутаваных калгасаў. А як быць з іншымі калгасамі, якія яшчэ трохі трымаюцца на плыву?***

— На самай справе ніякіх рэформ мы не бачым. Няма нават іх канцэпцыі. Рэформы патрабуюць часу і сродкаў. І мы яшчэ доўга будзем жыць са старымі калгасамі. Хаця і ў цяперашні крызісны час ёсць добрыя гаспадаркі, але іх вельмі мала.

Так склалася ў гісторыі калгаснага ладу, што лёс гаспадаркі амаль цалкам залежыць ад яго кіраўніка — старшыні. Пры добрым кіраўніку больш творча і адказна працуюць спецыялісты і другія падначаленыя. Там, дзе старшыня — энтузіяст, кампетэнтны ў сваёй справе, справядлівы, настойлівы, з цвёрдым характарам, там і вынікі нядрэнныя.

Гутарыў
**Мікола КАНАНОВІЧ**




*Прыехалі...*

ПОШТА

## А как хочется попробовать настоящую котлету

Я ветеран труда. Мне 73 года. Ваша газета мне нравится за смелый откровенный разговор. Я всегда ее покупала, а теперь решила выписать. Все знают, что жизнь сейчас нелегкая, особенно у пенсионеров. Но когда идет большой праздник, как Новый год или Рождество, каждый старается его отметить более-менее по-человечески. Мы живем с мужем вдвоем. Ему столько же лет, сколько и мне. На свои пенсии колбасы мы не покупаем. Возьмем этих костей, сварим борщ. А вот к Новому году я купила фарш и сделала котлеты и голубцы. Мой дед вечером 31 декабря сел за стол, посидел, попробовал одно блюдо, другое и пошел спать. А утром смотрю, варит себе картофельный суп, зажаренный салом. За свои прожитые 73 года, я впервые слышу о мясо-картофельном фарше, о мясо-картофельных пельменях. А как хочется, хотя бы раз в год, попробовать настоящую котлету из мяса и таких же пельменей. Соли в этот фарш насыплют, картошки напрут. Когда его разморозить — полная миска воды, а это все вес, и стоит он недешево.

**Полина Ильинична ПЕРНИКОВА,**
**ветеран труда**

НАВІНЫ

## С убытками

**По предварительным данным Минстата страны, уровень рентабельности в сельском хозяйстве в 1998 году составил около 8% против 11% в 1997 году.**

Завершили год с убытком 640 хозяйств, тогда как в 1997 году таких было 370. В прошлом году было собрано около 5 миллионов тонн зерновых и зернобобовых против 6,5 миллиона тонн в 1997 году. Это стало причиной того, что на сегодня, за исключением Гродненской области, не выполнен государственный заказ на поставку зерна.

Прошлогодние проблемы перешли и в новый год. Как результат — нехватка кормов, проблемы в животноводстве и на потребительском рынке.

**БелаПАН**

## У фермера лепшы ўраджай

**Па словах намесніка начальніка Мастоўскага сельгасупраўлення Н.Дзядзюк, летась фермерская гаспадарка "Гарызонт" спадара Мыслюца атрымала па 350 цэнтнераў бульбы і па 375 цэнтнераў цукровых буракоў з гектара.**

Тым часам як у калгасе імя А.Міцкевіча пры той жа якасці глебы на адзінкі плошчы вырасцілі па 152 цэнтнеры бульбы і па 333 цэнтнеры буракоў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## "У нас нет лишних денег"

**Выделение материальных ресурсов из государственных фондов убыточным сельхозпредприятиям впредь будет расцениваться как преступление", — заявил президент Беларуси Александр Лукашенко, выступая на совещании по вопросам развития агропромышленного комплекса страны.**

Лукашенко подчеркнул, что господдержка сельхозпредприятий в наступившем году будет осуществляться только при условии их рентабельности.

Президент признал, что из-за негативных процессов в экономике, вызванных российским и мировым финансовым кризисом, ресурсы Беларуси истощены. А потому «у нас нет лишних денег, чтобы закапывать их в землю», заявил Лукашенко.

Так, в минувшем году на нужды АПК государство выделило 23 трлн. рублей. Однако сельское хозяйство, отметил Лукашенко, оказалось единственной отраслью в стране, которая не вышла на плановые показатели, определенные высшим руководством страны.

По мнению главы государства, причина ухудшения ситуации в сельском хозяйстве кроется в том, что действующая ныне схема работы отрасли имеет серьезные изъяны.

# ПА МЯНУШЦЫ "ГРАЧ"



**Багатая Слонімшчына на таленавітых людзей. Але, на жаль, пра многіх вядомых нашых землякоў мы і сёння ведаем вельмі мала. А некаторыя з іх пакінулі прыкметны след у найноўшай гісторыі Беларусі. І толькі ў апошнія гады яны вяртаюцца да нас з пыльных архіўных папак... Гісторык з Мінска Ніна Стужынская ўжо шмат гадоў займаецца тэмай супраціўлення беларускага сялянства бальшавікам у 1920-я гады. Сярод прозвішчаў кіраўнікоў гэтага руху, якія вярнула з нябыту Стужынская, было і прозвішча нашага земляка Уладзіміра Ксяневіча.**

Уладзімір Ксяневіч, сын палкоўніка рускай арміі Франца Ксяневіча, нарадзіўся ў чэрвені 1894 года ў Слоніме ў шляхецкай сям'і. Нягледзячы на тое, што многія яго сваякі лічылі сябе палякамі, ён рана ўсвядоміў сябе беларусам. Скончыў кадэцкі корпус у Варшаве і Мікалаеўскае ваеннае вучылішча ў Пецярбургу. А пасля была першая сусветная вайна, якую Уладзімір прайшоў у складзе штурмавога батальёна VI рускай арміі ў Румыніі. Там яго і застаў бальшавіцкі кастрычніцкі пераварот 1917 г. На Румынскім фронце ў гэты час актыўна фарміраваліся беларускія вайсковыя аддзелы, з якіх быў створаны цэлы корпус. Беларускія вайскоўцы імкнуліся вярнуцца на Бацькаўшчыну, каб падтрымаць Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, якая абвясціла незалежнасць Беларусі. Аднак нямецкія і румынскія войскі перашкодзілі вяртанню беларускіх вайсковых адзінак арганізаваным парадкам (са зброяй) на Беларусь...

Уладзімір Ксяневіч, не маючы магчымасці дабрацца да Бацькаўшчыны, уступіў у армію генерала А. Дзянікіна, якая на Украіне і ў паўднёвай Расіі ваявала з Чырвонай Арміяй. Там капітан Ксяневіч набыў спецыяльнасць ваеннага будаўніка. Будаваў масты. У прыватнасці, у Пружанах, пасля вяртання на Бацькаўшчыну. У 1920 годзе ён далучаецца да актыўнай барацьбы за незалежнасць Беларусі. Спачатку Ул.Ксяневіч служыў у рэзерве Беларускай вайсковай камісіі, якая ў той час займалася стварэннем беларускіх вайсковых аддзелаў, а пасля апынуўся ў польскім войску. Там ён не затрымліваецца па прычыне "дрэнных адносін да братоў-беларусаў з боку палякаў" і ўступае ў гусарскі полк арміі генерала Станіслава Булак-Балаховіча, а пасля служыць на бранявым цягніку "Балаховец".

Увосень 1920 г. слонімец далучаецца да Беларускай сялянскай партыі "Зялёны Дуб", якая ў той час распачала актыўную дзейнасць. "Зялёны Дуб" быў утвораны былымі франтавікамі-беларусамі, якія вярнуліся з першай сусветнай вайны, каб супрацьстаяць чужым уладам, а найперш бальшавікам, ды хацелі змагацца за незалежнасць Беларусі. З кіраўніком арганізацыі Вячаславам Адамовічам (атаман Дзяргач) Ксяневіч пазнаёміўся яшчэ ў 1920 годзе ў Мінску ў Беларускай вайсковай камісіі. Спачатку наш зямляк выконваў адказныя даручэнні атамана Дзяргача, а пасля ўзначаліў галоўны штаб "Зялёнага Дуба" (партыйная мянушка "Грач").

Пасля заканчэння польска-савецкай вайны кіраўніцтва "Зялёнага Дуба" знаходзілася ў Заходняй Беларусі і адтуль кіравала дзейнасцю антыбальшавіцкіх партызанаў у БССР. Польскія ўлады закрывалі вочы на дзейнасць беларускіх патрыётаў, бо з БССР у Заходнюю Беларусь засыламіся дыверсійныя атрады ГПУ. Таму палякі пэўны час разглядалі барацьбу "Зялёнага Дуба" супраць савецкай улады выгоднай сабе, як сродак ліквідацыі чэкісцкіх дыверсій. Аднак ад польскіх уладаў беларускія партызаны амаль не атрымлівалі дапамогі. Пазней Ксяневіч успамінаў, што часта зялёнадубцам даводзілася галадаць, не хапала зброі і боепрыпасаў. "Зялёны Дуб" спрабаваў арганізаваць у Слоніме сваю друкарню, але, праўдападобна, гэтаму перашкодзілі польскія ўлады. Аднак, не зважаючы на гэтыя цяжкасці, партызанскія аддзелы "Зялёнага Дуба" яшчэ некалькі гадоў дзейнічаюць у савецкай Беларусі, час ад часу адыходзячы на свае базы на польскі бок мяжы. Нелегальна хадзіў у БССР з баявымі і разведвальнымі заданнямі і У. Ксяневіч. Некалькі разоў ён тайна сустракаўся з жонкай і дзецьмі, якія жылі ў Мазырскім павеце, рыхтаваў іх пераезд у Польшчу.

У 1923 годзе польскія ўлады, пад ціскам савецкай дыпламатыі, ўсё больш пачалі перашкаджаць дзейнасці "Зялёнага Дуба". Некаторыя беларускія партызаны трапілі ў турмы і канцлагеры. Усе гэтыя падзеі паўплывалі на настрої зялёнадубцаў і іх атамана Дзяргача, якія сталі на антыпольскія пазіцыі. Зразумела, што пачынаць партызанскую вайну на два франты было б самагубствам. Таму Дзяргач распачынае "гульню", непасрэдным удзельнікам якой і стаў Уладзімір Ксяневіч. У гэты час апатыі слонімец далучыўся да баптыстаў, адначасова вучыўся і выкладаў арыфметыку ў Варшаўскай біблейскай школе, удзельнічаў у з'ездах баптыстаў. Але і там, па пазнейшых успамінах Грача, ён "задавальнення не знайшоў". Ксяневіч зноў бярэцца за партыйную працу.

Да гэтага часу не зусім зразумелы сэнс місіі Ксяневіча, з якой яго паслаў у Мінск атаман Дзяргач. У пачатку кастрычніка 1924 года ён перайшоў польска-савецкую мяжу з лістамі кіраўніка "Зялёнага Дуба" да ўраду і ГПУ БССР. Па адной версіі, гэта была спланаваная акцыя па знішчэнню кіраўнікоў беларускай партызанскай арганізацыі, якіх выманьвалі на савецкі бок мяжы. Па іншай, акцыя польскай разведкі, якой патрэбны былі пэўныя звесткі. Яшчэ адна версія — "Зялёны Дуб" спрабаваў ашукаць бальшавікоў, "выбіць" у іх грошы і зброю нібыта толькі для антыпольскай барацьбы, а на самай справе — і для антысавецкай. Але ашукаць ГПУ не ўдалося. Ксяневіч быў арыштаваны, яго дапытвалі аб ранейшай дзейнасці. "Я — беларус-нацыяналіст, — казаў ён на допытах, — мяне заўсёды цягнула да майго цёмнага народа".

28 чэрвеня 1925 г. Уладзіміра Ксяневіча Вярхоўны суд БССР асудзіў да растрэлу. Да лютага 1927 года слонімца трымалі ў камеры смяротнікаў, пакуль яго хадайніцтва аб памілаванні не было задаволена. Ксяневіч атрымаў 10 гадоў канцлагераў, і аб далейшым яго лёсе нічога невядома...

У 1949 г. у Мінску выйшла кніга міністра дзяржбяспекі БССР Л. Цанавы, у якой ён успомніў і "контррэвалюцыйную арганізацыю" "Зялёны Дуб". Аднак Цанава чамусьці назваў не кіраўніком "былога палкоўніка царскай арміі Каневіча". Невядома з якой мэтай слонімца павысілі ў пасадзе, званні і чаму падалі неправільна ягонае прозвішча. Гэта цёмная, не да канца высветленая справа...

**Сяргей ЁРШ**



## ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ

# "Хопіць, братцы!"

Многа святаў бывае ў Жыровіцах, дзе ёсць цудоўны абраз, але пярвейшае свята — гэта на Пакрову. Многа збіраецца там багамольцаў з усіх старон. Так было і ў гэтым годзе. Людзі сталі ехаць за чатыры дні да самога свята. Народу назбіралася ўсялякага: былі там і паны, шляхта, і мужыкі. Трэба сказаць, што кожнаму ведама, што цяпер, дзе збяруцца два мужыкі, туды лезе і паліцыя, а тут, няма чаго і гаварыць, туды яе напёрла гэтулькі, як прусакоў на свет у іншай хаце. Прышло і свята.

Ад самага рынку, пакуль у царкве не служылі, то хто што купляў, хто што прадаваў, а хто што — каб і ўкрасці. Як скончылася служба, — хто сюды, хто туды, а паліцыя таксама пашла трошкі падчубарыцца. Каля трэцяй гадзіны паліцыя стала збірацца дахаты, але ўбачыла, што пасярод рынку стаяла спакойна пяць, а каб не зманіць, можа шэсць чалавек. Доўга не чакаючы, паліцыя і кажа ім: "Чаго вы гэта стаіце? Едзьце дахаты" — "Калі вы, паночкі, хочаце ехаць, то едзьце сабе, а мы гэта нічога кепскага не робім". — "Ідзі, я табе кажу", — і доўга не думаючы, — ляп яму па твары, а потым у спіну кулаком і гэтак далей...

Неўзабаве з усіх старон паваліў народ. Ён і стаў дапытывацца ў паліцыі, за што яна б'е мужыкоў, але паліцыя закрычала ў адказ "маўчаць". — "Што, маўчаць", стала чуваць, "калі ў вас блішчучыя гузікі, то ты думаеш, што вялікі пан. Хоць ты і стражнік, але такі самы мужык і ты, і твой бацька, як і я". Але тут ужо паліцыя пусціла ў ход бізуны і шаблі, і стала секчы людзей направа і налева. Немала народу паліцэйскія памарнавалі...

Пасля пабоішча некаторыя засталіся без вуха, без носа, а то і з акрываўленым тварам ці з перабітаю рукою, а адзін чалавек, у каторага шабляю быў прабіты жывот да почак, ляжаў пад плотам. Бяруць яго і цягнуць беднага да станавога. Убачыў той, што кепска прыходзіць, узяў ды і адправіў яго ў Слонім да бальніцы, дзе небарака на другі дзень і аддаў Богу душу.

Вось якія настаралі часы, білі многа народу на вайне, а цяпер б'юць яго не мала і без вайны.

**Невядомы**
**Наша ніва (Вільня), № 4, 2 (15) снежня 1906 г.**

# СТАРЕЦ ИЕРОНИМ, АФОНСКИЙ ИНОК

**Слева от Алтаря Георгиевской церкви Жировицкого монастыря покоится Старец иеромонах Иероним (в миру Коваль Иван Михайлович, 1879-1964), местоочтимый подвижник благочестия.**

Последние пять лет своей жизни, после долгого служения на Афоне и в России, он провел на покое в Жировицкой обители, выполняя разные послушания. Помогал людям добрым советом, прозорливыми предсказаниями и исцелениями от тяжких недугов. Молитвенная помощь Старца не ослабевает и после его блаженной кончины. Чудотворения продолжаются и на его могилке...

Вот одно из них:

...еще и года не минуло со дня кончины Старца, когда некая молодая мать с шестилетней дочкой пришла помолиться на его могилку. Вечерело. Невдалеке стайка знакомых детишек шла в направлении близкого леса, и женщина отпустила с ними свою дочушку. Через некоторое время детишки шли мимо уже в обратном направлении, но без ее дочки. На вопрос: где она? — ответили, что она от них отстала. Мать бросилась в лес, аукала, искала, но дочушка не откликалась. Уже темнело. Мать в отчаянии. Тем более, что совсем недавно был случай, когда ребенка, заблудившегося в лесу, долго не находили, а потом нашли обглоданный зверями и птицами скелетик.

Мать, рыдая и причитая, бросилась на могилку Старца, прося о помощи. Обезумевшая от горя, она умоляла Старца — если уж ребенок погибнет, — то хотя бы помочь найти тельце, не съеденное хищниками, и похоронить по-христиански...

Было уже совсем темно, когда она в каком-то забытьи и изнеможении затихла, и, как бы успокоилась. Она поднялась и в полной темноте, медленно, почти ничего не видя, пошла по дороге в сторону близкого леса. И вдруг увидела едва различимое темное пятнышко, двигающееся ей навстречу. Подошла ближе — это ее дочушка с полным чайником ягод!..

Она и побить ее готова была, и не сдержалась от радостных рыданий.

— Где ты была?!.

— Мамочка, я хотела тебе ягодок набрать. А дети, как только я найду ягоды, сейчас же их собирают себе. Я от них отошла немного и заблудилась...

— А как ты вышла?

— А меня в черном взял за руку — и вывел...

...Сейчас та молодая мама — инокиня, а дочка — игуменья...

**"Жыровіцкая абіцель", №8,1998г.**

# ТАНКАМИ ПО МОГИЛАМ

Михаил Копелев сразу же после войны попал в Беларусь и до 1958 года служил офицером во 2-м батальоне 68-го механизированного полка 8-й моторизованной дивизии, дислоцировавшейся в районе Слонима. Однажды он проводил занятия по вождению танков и увидел, как по одной из полян из-под гусениц разворачивавшейся машины полетели кости. Обследовав это место, младший лейтенант Копелев обнаружил два длинных рва, едва присыпанных землей. Они были заполнены останками людей. Тот танк, траки которого вскрыли страшные рвы, оказалось, не был первым. И до него учебные "тридцать четверки" извлекали из-под земли кости, обрывки одежды, обувь. Трасса проходила прямо по могильным рвам...

Копелев доложил о своей страшной находке командованию и сам предпринял попытку расследования. Он опросил местных жителей и установил, что рвы в лесу — это все, что осталось от Слонимского гетто. Ему рассказали, как в 1941 году в назначенный день и час немцы и полицаи погнали евреев из гетто в лес. Евреи шли пешком, впереди — раввины. В колонне преобладали старики, женщины и дети. Их подвели ко рвам и расстреляли из пулеметов. А ямы засыпали слоем песка, толщиной в лопатный штык. (Это и спасло жизнь Якову Шепетинскому).

Младший лейтенант сообщил обо всем этом командирам части. Вот их фамилии: заместитель командира дивизии полковник Кричман, командир полка полковник Миндлин, старший офицер батальона майор Бараховский. Все они были евреями, и Копелев очень рассчитывал на их понимание. Но командиры лишь отмахнулись от назойливого лейтенанта, и маршрут следования танков не был изменен ни на один сантиметр, и учения на еврейских захоронениях продолжались. Вплоть до 1958 года, когда Копелев демобилизовался, танки трамбовали тела женщин, стариков и детей, однажды уже убитых нацистами и полицаями.

Мысль об этом не давала покоя Михаилу Копелеву. В 1963 году он специально поехал в Беларусь в отпуск, чтобы побывать там, где служил в 40-50-е годы. Танкодрома не было, но от могил уже не осталось и следа. А в 1979 году Михаил Копелев со всей семьей репатриировался в Израиль.

**"Калейдоскоп"**

# "ВЕЧАВЫЯ ЗВАНЫ"



Пад такой назвай у Слоніме створана праваабарончае і культурна-асветніцкае таварыства імя Міхала Клеафаса Агінскага. Старшынёй праўлення таварыства абраны слонімскі журналіст, краязнаўца і арганізатар музея-майстэрні "Беларускае мястэчка" Міхаіл Рылко. Днямі карэспандэнт "ГС" сустрэўся з ім і папрасіў адказаць на некаторыя пытанні.

***— Міхаіл Іванавіч! Як узнікла ідэя стварэння такога таварыства?***

— Прапановы аб стварэнні падобнага грамадскага аб'яднання неаднаразова выказваліся падчас правядзення розных культурна-масавых мерапрыемстваў у Слоніме. Але далей прапаноў справа не ішла. Хаця ідэя стварэння таварыства не давала мне спакою. Больш таго, каб штосьці стварыць, неабходна нешта ўжо мець. Я на працягу дваццаці гадоў збіраў матэрыялы і экспанаты, якія расказваюць пра гісторыю нашага краю і яго людзей, часта сустракаўся з народнымі ўмельцамі і г.д.

***— Якія будуць асноўныя накірункі дзейнасці таварыства?***

— Па-першае, арганізацыя і правядзенне прававога ўсенавуча насельніцтва, садзейнічанне развіццю прававых ведаў і міжнародных правоў чалавека. Вядома, што без моцнай сям'і не можа быць і моцнай дзяржавы. Таму другім накірункам дзейнасці таварыства з'яўляецца клопат пра сям'ю. Гэтага мы плануем дасягнуць шляхам рознабаковай выхаваўчай работы. Мы будзем таксама аказваць пасільную дапамогу людзям у розных галінах творчасці. У першую чаргу будзе арганізавана шырокая інфармацыя пра іх вопыт работы і аказана практычная дапамога ў стварэнні праектаў лепшых твораў мастацтва і г.д.

Таварыства мае таксама намер садзейнічаць арганізацыі больш змястоўнага культурнага адпачынку слонімцаў. Гэта правядзенне дыялогаў па найбольш хвалюючых тэмах дня, навукова-папулярных лекцый, краязнаўчых гутарак, выставаў работ майстроў мастацтваў і народных промыслаў. Яшчэ адным з накірункаў нашай дзейнасці з'яўляецца ўшанаванне памяці слаўных продкаў нашага краю, увекавечанне іх імёнаў. У працэсе яго стварэння прынялі ўдзел больш, як трыццаць чалавек. Гэта токар Вячаслаў Берастоўскі, рэстаўратар Уладзімір Лапянюк, доктар народнай медыцыны Георгій Лысенка, кандыдат тэхнічных навук Самуіл Фарбер, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Сяргейчык, знаўца бібліятэчнай справы Алена Лепка, культработнік Валяр'ян Вярбіцкі, мастак Яўген Гіль, ваеннаслужачы Мікалай Гарматны і многія іншыя.

***— Куды звяртацца слонімцам і гасцям нашага горада, калі яны пажадаюць дапамагчы вам ці прыняць удзел у рабоце таварыства?***

— Уласнага памяшкання таварыства "Вечавыя званы" пакуль не мае, таму, хто пажадае супрацоўнічаць з намі, трэба званіць на мой хатні тэлефон 2-12-50, альбо звяртацца па адрасе: Слонім, вул.К.Маркса, 67.

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА**

АДПАЧЫНАК

# ВЕЧАР ДУХОЎНАЙ ПАЭЗІІ

У памяшканні ЦДЮТ адбылася літаратурна-музычная вечарына. Яе ладзілі паэты з беларускай сталіцы супольна з Мінскай духоўнай семінарыяй, якая месціцца ў Жыровічах.

Цёплым духоўным словам вечарыну адкрыў айцец Іаан. Пасля гучалі вершы з вуснаў паэтаў Галіны Дубянецкай, Людкі Сільновай, Глеба Артханава, Генадзя Бардышава. Бард і паэт Сяржук Мінскевіч прачытаў урывак з паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды", якую ён пераклаў на беларускую мову, праспяваў вясёлую песеньку.



*Спявае Галіна КАВАЛЬЧУК*



*Іграе Алег БЕМБЕЛЬ*

Народныя песні спявала таксама Галіна Кавальчук. А паслушнік Алег (паэт Зніч), які ўжо трэці год жыве ў Жыровіцкім манастыры, іграў на піяніна, чытаў свае вершы, а таксама падараваў прысутным свежы нумар багаслоўска-літаратурнага лістка "Жыровіцкая абіцель".

Адным словам, вечарына ўдалася. А арганізавала яе настаўніца шостай школы Наталля Панамарова пры фінансавай падтрымцы фірмы "Тэлкон".

**Сяргей ЧЫГРЫН,
Мікалай СУПРУН (фота)**

ГОСЦІ ГОРАДА

# "ПЕСНЯЙ РАДУЮ ЛЮДЗЕЙ"



Днямі ў Слоніме даў канцэрт спявак, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, Якаў Навуменка. І хоць канцэрт па тэхнічных прычынах пачаўся са спазненнем амаль на гадзіну, слонімцы, якія прыйшлі ў той вечар у РДК, не пашкадавалі аб гэтым. Пасля канцэрта карэспандэнт "ГС" папрасіў Якава Навуменку адказаць на некаторыя пытанні.

***— Якаў Паўлавіч, як пачынаўся ваш творчы шлях?***

— Я не ведаю ніводнага беларускага спевака, у якога разам з творчымі поспехамі, не было няўдач і расчараванняў. І я — не выключэнне. Увогуле, я не ставіў мэтай свайго жыцця быць эстрадным спеваком. Думаў, што хутчэй за ўсё стану музыкантам. Падчас вучобы ў сярэдняй школе ў Оршы займаўся ў музычнай школе па класу акардыёна. Іграў на танцах у школе, пасля шмат выступаў у самадзейнасці падчас службы на флоце ў горадзе Севастопалі. Пасля звальнення з флоту мне параілі паступіць на вучобу ў прыборабудаўнічы інстытут, што я і зрабіў. Паспяхова закончыў некалькі курсаў і зразумеў, што гэта не для мяне. Пакінуў вучобу ў інстытуце і паступіў у Мінскае музычнае вучылішча. Выкладчыкі аддзялення харавога дырыжыравання заўважылі, што ў мяне надрэнны голас. Пазней была вучоба ў кансерваторыі, а зараз ужо пяты год працую салістам аркестра Міхаіла Фінберга. Цяпер дакладна ведаю, што спяваць — гэта якраз тое, чым я буду займацца ўсё сваё жыццё.

***— Песням якіх кампазітараў вы аддаяеце перавагу?***

— Большая частка майго рэпертуару складаецца з маіх уласных песняў. Але я з задавальненнем выконваю песні кампазітараў Ігара Лучанка, Эдуарда Зарыцкага, Алега Іванова і іншых.

***— А хто аўтары слоў вашых уласных песняў?***

— Я не аддаю перавагу вершам якога-небудзь аднаго паэта-песенніка. Ёсць вельмі цікавыя вершы і непрафесійных паэтаў. Напрыклад, сваю апошнюю песню пад умоўнай назвай "Шчабятуха" я напісаў на словы пачынаючага паэта Кастуся Цыбульскага. Шмат працую дома, седзячы за сінтэзатарам. Пішу новыя песні, раблю аранжыроўкі ранейшых.

***— Акрамя Беларусі, дзе яшчэ выступаеце?***

— Даволі шмат выступаў на Украіне, у Расіі. Асабліва запомніўся надаўні канцэрт ў Цюмені перад землякамі-беларусамі, якія здабываюць там нафту. Іх настолькі ўразілі беларускія песні, што мяне літаральна насілі на руках. У апошні час я выязджаў з канцэртамі ў Нямеччыну. У горадзе Кёльн спяваў у рэстаранах, зарабляючы такім чынам на жыццё, бо ў нашай краіне зарабіць пэўныя сродкі для існавання складана.

***— Як успрымаюць немцы беларускія песні?***

— Увогуле, нямецкая публіка з задавальненнем слухае беларускія мелодыі, але мой рэпертуар там істотна адрозніваўся ад звычайнага. Наведвальнікі рэстаранаў Кёльна больш любяць рускія песні. Я ім спяваў "Кацюшу", "Падмаскоўныя вечары", "Карабейнікі" і іншыя.

***— Калі вы ўпершыню адчулі сябе сапраўдным артыстам?***

— Шчыра кажучы, я і зараз не адчуваю сябе сапраўдным спеваком. Кожны раз пасля канцэрта аналізую сваё выступленне і прыходжу да высновы, што тую, ці іншую песню можна было праспяваць інакш. Бо не ўсе гледачы аднолькавыя. І для мяне самае галоўнае — знайсці кантакт з людзьмі, якія сядзяць у глядзельнай зале. Калі мне гэта ўдаецца, канцэрт праходзіць цудоўна. Тады на сцэне — нібы на крылах лячу. Але, на жаль, бывае і так, што праспяваўшы дзве гадзіны на сцэне, бачу, што гэтага бар'ера не пераадолеў. Тады адчуваеш сябе ў зале чужым.

***— Якая ў вас сям'я?***

— Мая сям'я невялікая: я, мая жонка Аліна, якая працуе журналісткай на тэлебачанні, і сын Ціхан, які вучыцца ў школе.

***— Ці не збіраецца Ціхан прадоўжыць справу бацькі?***

— Не ведаю. Ён паспяхова вучыўся ў музычнай школе пры акадэміі музыкі, па класу скрыпкі. Зараз яго захапленні істотна змяніліся. Ён стаў больш цікавіцца камп'ютэрамі. Ні я, ні мая жонка не перашкаджаем яму ў гэтым.

***— Чым вы любіце займацца ў вольны час?***

— У творчага чалавека вольнага часу амаль няма. Я толькі крыху адпачываю падчас гастроляў. А ў астатні час ідзе вялікая праца. У галаве пануе бясконцы творчы працэс. Узнікае нейкая мелодыя, нешта хочацца перарабіць. І ад гэтага ўжо ўхіліцца нельга. А калі ўсё ж выпадае нейкая вольная гадзіна, то мы разам з жонкай з задавальненнем разгадваем красворды. Ні дачы, ні аўтамашыны я не маю.

***— Ці ёсць у вас якая-небудзь вялікая мэта?***

— Ніякай вялікай мэты ні ў творчым, ні ў матэрыяльным плане я перад сабой не ставіў. Жыву, ствараю, спяваю. Лічу, што ўсё астатняе — ад Бога.

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА,
Мікалай СУПРУН (фота)**

ЗАХАПЛЕННІ

# МАСТАК МАЛЮЕ НАЦЮРМОРТЫ





Другі год займаецца ў студыі выяўленчага мастацтва (кіраўнік Яўген Іваноў) пры ЦДЮТ Пётр Хілімончык. Тут мы яго і засталі за мальбертам. Мастак працаваў над сваім чарговым нацюрмортам. З яго слоў мы даведаліся, што Пётр вучыцца ў 11 класе СШ №4, любіць маляваць. Пасля школы марыць паступіць у Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава.

У час гутаркі Пётр Хілімончык пазнаёміў нас са сваёй першай выставай, якая экспануецца ў памяшканні ЦДЮТ. Мы былі проста ў захапленні ад намаляваных алоўкам і фарбамі нацюрмортаў. Юны мастак тонка і пасвойму перадаў не толькі пэўнае спалучэнне прадметаў, але і свой настрой. Хочацца спадзявацца, што добры настрой юнага мастака са Слоніма і яго творчыя поспехі яшчэ наперадзе.

**Сяргей ЧЫГРЫН, Мікалай СУПРУН (фота)**

 



УВАГА! КОНКУРС

# "ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА?"

**Паважаныя чытачы!**

Сёння мы публікуем лепшыя чытацкія подпісы да здымка, які быў апублікаваны ў "Газеце Слонімскай" №2. Ніжэй друкуем новы здымак, які на конкурс даслаў наш чытач Дзмітрый Барысевіч. На працягу дзесяці дзён чакаем ад вас смешныя подпісы. Не забывайце ўказваць сваё імя і прозвішча, дамашні адрас і тэлефон.



Рэдакцыя чакае ад вас, шаноўныя чытачы, і смешныя фотаздымкі на гэты конкурс. Аўтары самых вясёлых подпісаў і фотаздымкаў атрымаюць прызы.

Конкурс працягваецца.

***

Не бываў нідзе
далёка,
Болей дома ўсё сяджу.
Адчыніце,
людцы, дзверы —
Кракадзіла пагляджу.

***

Ваш билетик?
**Наталия Бошко**

***

В террариум этот
идите вы сами,
Подайте хоть корочку мне.
О жизни такой, как у тех,
за дверями,
Мечтать буду
только во сне.
**Петр Каранец**

***

Я стою вот здесь давно,
С нетерпеньем жду хозяина.
Ладно — он ушел в кино,
Не дай Бог — в террариум.

***

Предпочитаю в "ГС" сняться,
Чем в террариум зайти
И со смертью
наедине остаться.
**Юрий Яговдик**

***

Эх, повезло бы в смерти,
Коль не везет в любви.
**Оксана Ахралович**

***

А ну-ка, дверь откройте
быстро!
Я переодетый зам.
министра.
**Елена Шевчик**

***

Через нашу проходную
Не пущу и мать родную.
**Денис Присняк**

***

Теперь я вышибала,
И даже тетя Клава
При встрече сразу
"здравствуй" говорит.
**Михаил Макаревич**

***

Платить за вход
надо немало,
Чтоб поиграть со смертью.
Но лучше мне
"Педигрипала"
Купить взамен, поверьте.
**Елена Соколова**

***

Што там змеі, кракадзілы,
Яшчаркі — усё ў цане!
Я ж стаю тут
за "бясплатна" —
Паглядзіце на мяне.
**Святлана Болцік**

***

Я прыйшоў — цябе няма,
Падманула, падвяла.
**Алена Ёрш**

***

Хоць сабачы розум маю,
Усё роўна не змаўчу,
І па-свойму, па-сабачы,
На ўсё горла закрычу:
— Гэта ж дзіва, вось дык цуд,
Дажыліся слонімцы:
Побач з смерцю ўсе жывуць,
Дзе нашы амонаўцы?
**Таццяна Тарасік**

***

Жду я три ночи,
жду я три дня,
Где ж мой хозяин
любимый?
Может быть
съела его там змея,
Иль черепаха Тортила?
**Наталья Эгерд**

***

Хозяйка бедная моя,
Как за тебя волнуюсь я!
**Ольга Пейдик**

***

Делать было нечего —
Всех сожрал их вечером.
**Дмитрий Миронов**

***

Крокодил не убежит,
Пока Шарик здесь стоит.
**Анна Глечикова**

***

Я на выставку сбежала,
Все веревки перервала.
А кассирша мне в ответ:
— Без билета входа нет!
**Славяна и Стас Черненко**

***

Стаю вось тут, на ганачку,
Сумую па каханачцы...

***

— Я хочу купить билет.
— Для собак билетов нет.

***

Место встречи изменить нельзя.
**Лилия Прудникова**

***

Лучший в Слониме вахтер — пес по имени Трезор.
**Надежда Добриян**



*Што б гэта значыла? (№4)*
*Фота Дзмітрыя БАРЫСЕВІЧА*

# РАМАН АТРЫМАЎ ФОТААПАРАТ

**У другім нумары нашай газеты быў апублікаваны ліст вучня сёмага класа СШ №9 Рамана Буланава. У ім хлопчык расказаў пра сябе і сваю мару — фотаапарат.**

На днях Раман разам са сваім татам прыйшлі ў рэдакцыю, дзе прадстаўнік слонімскага філіяла фірмы "Кодак" Яўген Каракоў падараваў Раману фотаапарат, а таксама расказаў, як трэба ім карыстацца. Ён пажадаў хлопчыку добрай вучобы і здароўя.

Бацька Рамана Юрый Віктаравіч – ваеннаслужачы, маці Таццяна Уладзіміраўна працуе на фабрыцы мастацкіх вырабаў, захапляецца макрамэ. У школе хлопчык больш за ўсё любіць матэматыку і фізіку. А ў вольны час цяпер будзе фатаграфаваць не толькі тату з мамай, але і сяброў. Тым больш, што фотаздымкі ён зможа рабіць у аддзелах "Кодак", якія знаходзяцца ў магазінах "Юбілейны", "1000 дробязей" і "Дружба".

**Сяргей ЧЫГРЫН, Мікалай СУПРУН (фота)**



*Яўген КАРАКОЎ тлумачыць Раману, як трэба карыстацца фотаапаратам*

## АНЕКДОТЫ

☺ Артистки кордебалета болтают после спектакля:

- Что с нашей примой? Ей поднесли девять прекрасных букетов, а она не довольна.

- Она давала деньги на десять.

☺ Женщина кокетливо говорит: - Угадайте, сколько мне лет?

- Даже не могу себе представить.

- Ну, я вам намекну: моя дочь ходит в детский сад...

- Она там заведующая??!!

☺ - Вы продолжаете утверждать, что обвиняемый назвал вас дураком?

- Да, гражданин судья. Правда, он это сказал не прямо, а иносказательно. Он сказал: «Что касается интеллекта, то мы с вами на одном уровне».

☺ Вопрос в школе прапорщиков.

Экзаменатор:

- Вот смотрите. Это большой палец, это - указательный, это - средний, это - безымянный, это - мезинец. (Двигает пальцами) - Мешаем, мешаем, мешаем ... Где какой ?

☺ Хозяин - гостю:

- Посветить вам на ступеньки?

- Нет, спасибо, я уже лежу внизу.

☺ - Вы знаете, что делают новые русские в пасху?

- Красят свои мерседесы в разные цвета и стукаются!

☺ - Почему вы прервали вдруг свое выступление? - спросили лектора,который неожиданно сошел с кафедры.

- Видите ли, я уже привык к тому, что слушатели поглядывают на часы,но когда начинают их подносить к уху...

☺ Приходит английский лорд домой. Ему открывает дворецкий и говорит:

- Ну что, старый хрыч, опять пил и шлялся по девкам?

- Нет, Джон, ходил покупать слуховой аппарат...

## За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:

Арцішэўская Ірына, Глліннікаў Уладзіслаў, Мароз Ганна, Панкраценка Валерый, Семенік Кацярына, Пятрова Дар'я, Навумчык Яўген, Трэнкін Данііл




## У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:

Місевіч Марына і
Цімошка Аляксандр

Жыгавец Наталля і
Герасімчык Алег

Дзеравяннік Сняжана і
Харытончык Міхаіл

Брамерская Наталля і
Коціш Валерый



## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Бублей** Таісія Васільеўна | 1929 г.н. |
| **Гусінец** Пелагея Сяргееўна | 1920 г.н. |
| **Шлык** Таісія Уладзіміраўна | 1952 г.н. |
| **Оргіш** Іван Іосіфавіч | 1931 г.н. |
| **Стралкоўская** Вольга Дзмітрыеўна | 1912 г.н. |
| **Барысевіч** Часлава Васільеўна | 1931 г.н. |
| **Жыліч** Алена Васільеўна | 1904 г.н. |
| **Клыбік** Кацярына Іосіфаўна | 1922 г.н. |
| **Леванюк** Іван Васільевіч | 1934 г.н. |
| **Жыткевіч** Алена Антонаўна | 1919 г.н. |
| **Пясецкі** Мікалай Аляксеевіч | 1929 г.н. |
| **Маркевіч** Іван Касьянавіч | 1931 г.н. |
| **Цвікевіч** Аляксей Васільевіч | 1906 г.н. |
| **Садовая** Ірына Васільеўна | 1928 г.н. |
| **Бушуеў** Аляксандр Віктаравіч | 1968 г.н. |
| **Прыдыбайла** Надзея Харытонаўна | 1912 г.н. |

✝

Выражаем глубокие соболезнования семье Семеньковых в связи с трагической смертью **жены и матери**.

*Жильцы дома №31А по ул. Тополевой*

## ВЕСЕЛЫЙ КРОССВОРД

*от Владимира Вашуты*

**В каждую клеточку вписывается по две буквы**

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 3**. Морской разбойник, пират. **5**. Персонаж повести Н.В.Гоголя "Майская ночь". **7**. Исполнение музыкального или вокального произведения одним исполнителем. **8**. Город на севере Франции. **10**. Известный французский писатель. **11**. Бывшее социалистическое государство. **12**. Точное календарное время. **14**. Морская рыба семейства тресковых. **16**. Нижний край каждой половины одежды, раскрывающийся спереди. **17**. Исторически сложившаяся группа людей. **19**. Известный русский адвокат. **20**. Герой гражданской войны. **21**. Кредитно-финансовое учреждение. **22**. Водный поток. **24**. Металлический сосуд для мусора. **26**. Название самоуправляющейся организации украинского казачества в 16-18 в.в. **27**. Изделия из лучших сортов белой глины. **29**. Часть оперения у птицы. **31**. Действительное, невыдуманное событие, явление. **32**. Пьеса Г.Ибсена. **33**. Женщина, танцующая в паре с кавалером. **35**. Известный российский клуб по мини-футболу. **36**. Путь движения небесного тела. **38**. Маска (устар.).



**ПО ВЕРТИКАЛИ: 1**. Планета Солнечной системы. **2**. Большое крестьянское селение. **3**. Короткое толстое бревно. **4**. Дугообразное перекрытие проема в стене. **5**. Сигнальный медный духовой инструмент. **6**. Герой оперы П.И.Чайковского "Черевички". **9**. Река в России. **10**. Звезда созвездия Лиры. **13**. Материал для упаковки. **15**. Сосуд для цветов, фруктов. **16**. Маленькая лошадь. **18**. Рыба семейства сельдевых. **19**. Вид конного спорта. **22**. Разговор, беседа. **23**. Матерчатое или вязанное изделие, надеваемое на шею, голову или на плечи. **25**. Город в Лаосе. **26**. В спорте: площадь для метания молота. **27**. Яркий фонарь впереди автомобиля и т.д. **28**. Татарское войско, вторгшееся в пределы Руси. **30**. Стихотворение М.Ю.Лермонтова. **32**. Графический знак, изображающий музыкальный звук. **34**. Государство в Западной Африке. **37**. Французский композитор 19 в. **39**. Государство в Южной Америке.

### ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№3)

**По горизонтали: 5**. Фанера. **6**. Верста. **10**. Бухта. **11**. Тракт. **12**. Календарь. **15**. Глагол. **18**. Кобура. **19**. Склероз. **20**. Приклад. **21**. Бондарь. **24**. Пароход. **26**. Чайник. **27**. Кимоно. **31**. Полковник. **33**. Короб. **34**. Моряк. **35**. Ковбой. **36**. Горшок.

**По вертикали: 1**. Парта. **2**. "Ералаш". **3**. Рекорд. **4**. Отара. **7**. Пугало. **8**. Манекен. **9**. Аккорд. **13**. Полтинник. **14**. Монтажник. **16**. Аксакал. **17**. Колобок. **22**. Морковь. **23**. Балкон. **25**. Снаряд. **28**. Шомпол. **29**. Циклоп. **30**. Топор. **32**. Кокос.

 

# Будьте самой обаятельной и привлекательной!

**Сегодня расскажем о тиреоидном типе женской фигуры.**

Не пугайтесь такого научного термина: определение взято от названия гормона, который щедро вырабатывает щитовидная железа у дам этого типа. Обычно им свойственны тонкокостное сложение и длинная гибкая шея. В отличие от других, этот тип не склонен к накапливанию лишнего веса даже при высококалорийном питании. У таких женщин часто повышенная нервозность в поведении, они легко возбудимы, им трудно бывает расслабиться. При этом они обладают большой общительностью характера, подвижностью. Однако им не свойственна выносливость, и для поддержания своей энергетики они часто нуждаются в дополнительных стимуляторах — чае, кофе, острой пище, конфетах, шоколаде и т.п. Это "подстегивает" их на несколько часов, по истечении которых они снова нуждаются в подзарядке. Такие стимуляторы провоцируют щитовидную железу и надпочечники вырабатывать повышенное количество гормонов кортизона и адреналина, которые, в свою очередь, резко повышают уровень сахара в крови, обеспечивая тем самым организм энергией. В конце концов, может наступить истощение производительной функции щитовидной железы и надпочечников; грозящее ожирением или хронической усталостью. Ход обменных процессов замедляется, и начинается образование жировой прослойки. Жировые отложения скапливаются в основном в области живота и бедер, тогда как руки и ноги остаются стройными.

Женщины этого типа, в силу своей повышенной возбудимости и неорганизованности в питании, более других подвержены риску заболевания пищевыми расстройствами — анорексией и булемией.

При анорексии женщина доводит себя до крайнего физического истощения практически полным отказом от пищи, утверждая, что она "очень толстая". Хотя при этом вес ее либо нормален, либо даже ниже нормы. Результаты могут быть очень плачевны: вплоть до летального исхода.

Булемия — болезнь, при которой утрачивается самоконтроль над аппетитом, когда за один прием женщина может съесть чудовищное количество совершенно несовместимых продуктов, что вслед за этим вызывает приступ тошноты. В запущенных случаях болезни такие приступы могут повторяться по несколько раз в день, доводя до отчаяния и депрессии.

Корни этих пищевых расстройств — в нарушениях психического развития и в психологических проблемах. Относиться к замеченным отклонениям нужно крайне серьезно, не откладывая визит к врачу — психотерапевту или диетологу — "на потом". Может, кого-то утешит, что леди Диана, принцесса Уэльская, тоже была склонна к беспорядочному питанию и страдала от приступов булемии.

Если вы не подвержены этим патологиям, но, принадлежа к тиреоидному типу, имеете избыточный вес, вам необходимо следовать диете, при которой дневные калории поровну распределены между завтраком, обедом и ужином. Никогда не пропускайте завтрака и не пейте кофе по утрам, иначе в течение дня будете постоянно чувствовать потребность в стимуляторах. Вам очень полезны молочные продукты, в сочетании со свежими фруктами. Наиболее тяжкий период для вас — послеобеденное время, когда энергетический уровень резко падает. Старайтесь подавить в себе желание съесть что-нибудь сладкое, избегайте печенья, шоколада и конфет.

Предлагаем несколько вариантов дневного меню для женщин тиреоидного типа:

ЗАВТРАК.

Полстакана обезжиренного творога, 2 ломтика подсушенного пшеничного хлеба, 2 кусочка ананаса;

30 г сыра, 2 тоста из пшеничного хлеба, стакан апельсинового сока;

омлет из двух яиц с 2 столовыми ложками молока, 3 мелко нарезанных помидора, один ломтик подсушенного хлеба, один небольшой фрукт или сок.

ОБЕД.

1 стакан минестронского супа, пшеничная булочка, зеленый овощной салат с заправкой без масла, небольшая кисть винограда;

100 г белой рыбы, запеченной в гриле, с лимонным соком и укропом, зеленый овощной салат с заправкой без масла, 1 порция салата "слиммерс", 2 ломтика ананаса;

1 небольшая печеная картофелина с 1 порцией соуса песто, 1 порция салата с горохом и грибами, полстакана фруктового салата;

1 порция маринованного эскалопа, 1/2 стакана отварного риса, 1 стакан мелко нарезанных ломтиков арбуза;

1 порция салата по-гречески, 2 подсушенных ломтика ржаного хлеба, половинка грейпфрукта.

УЖИН.

Половинка запеченной грудки цыпленка, 1 порция томатной сальсы, 1 порция салата "слиммерс", 1 стакан отварной стручковой фасоли, 10 ягод клубники;

1 стакан нарезанной свеклы с лимонным соком, 1 тертая морковь, листья салата, 2 столовые ложки горчичного винегрета, 1 свежий фрукт;

1 порция салата из цыпленка с фруктами, 1 стакан отварного риса;

100 г постного стейка, запеченного в гриле, 1 небольшая картофелина, 2 ломтика ананаса;

1 стакан отварных спагетти с соусом "слиммерс", зеленый салат с лимонным соком, 1 нектарин.

# ПОСКОЛЬЗНУЛСЯ, УПАЛ, ОЧНУЛСЯ ...

Судя по телерекламе, самые страшные хвори — это кариес и перхоть. Если б это было так...

Человек, увы, — существо хрупкое. В любое время, при любых обстоятельствах может он получить травму. И первые минуты после ранения могут быть решающими. Очень важно, чтобы те, кто оказался рядом, смогли помочь пострадавшему. Ведь даже порез может быть опасен для жизни.

Поэтому, правило первое — в каждом доме обязательно должны быть антисептические средства и перевязочные материалы: стерильные бинты и салфетки, перекись водорода, йод.

При поверхностном неглубоком ранении кровь легко остановить — достаточно обработать рану перекисью водорода и наложить повязку. Что делать, если рана более серьезна и задеты вены? Кровь тогда вытекает из раны непрерывно, она — темно-красного цвета. Человек, оказывающий помощь, должен как можно быстрее наложить на рану давящую повязку, предварительно обработав кожу вокруг раны йодом. Стерильные салфетки (а если их нет под рукой — стерильный бинт), сложенный в комок, накладывают на рану и туго фиксируют повязкой. Сверху повязки желателен холодный компресс: лед из морозильника или снег с балкона заверните в полиэтиленовый пакет, подержите 20-30 минут. Раненую конечность или часть тела поднимите повыше. Как правило, этого бывает достаточно для остановки кровотечения.

Самое опасное кровотечение — артериальное. Ярко-алая кровь вытекает из раны неравномерно, пульсирующей струей. Такое кровотечение опасно для жизни из-за большой потери крови, поэтому важно как можно скорее его остановить. Надо пальцами сильно прижать поврежденную артерию к близко расположенной кости выше раны. Естественно, долго зажимать артерию пальцами невозможно, это временная, сиюминутная мера. Надежнее наложить жгут. Накладывают его выше раны, по возможности ближе к ней. Если под рукой нет резинового жгута, воспользуйтесь любыми подручными средствами. Это может быть толстая веревка, ремень или платок. В этот момент главное — как можно быстрее остановить кровотечение, ведь пострадавший за считанные минуты может истечь кровью. Жгут не накладывают на голое тело — только на одежду или на бинт. Затягивайте жгут до тех пор, пока не остановится кровь, но не изо всех сил — вы можете поранить мышцы и нервные окончания. Жгут накладывается на 1,5-2 часа, не более. За это время надо успеть доставить пострадавшего в больницу.

После того, как вы сумели остановить кровотечение, обработайте рану: кожу вокруг раны смажьте йодом и наложите давящую повязку. Если у вас нет стерильных салфеток или перевязочного пакета, используйте любую чистую ткань, способную впитывать влагу. Если нет бинта, можно закрепить ткань полосками лейкопластыря.

# Чем мы питаемся?

**Некоторые, долго не портящиеся продукты питания — колбасы и паштеты, растительные масла, кетчупы и т.д., — поставляемые из-за рубежа, приготовлены с использованием консервантов. Много противоречивых слухов ходит о пищевых добавках. Одни утверждают, что от них только вред. По мнению специалистов: добавки — это реальность. И не надо их бояться. Что же надо понимать под пищевыми добавками?**

Это натуральные и синтетические вещества, которые вводятся в процессе производства продуктов питания. Делается это для расширения ассортимента продукции, увеличение срока хранения, а также для ускорения технологического процесса приготовления того или иного продукта.

Добавки имеют широкий спектр действия. Они улучшают вид, вкус продуктов. Сюда относятся красители, ароматизаторы, всевозможные ускорители, разрыхлители. Как бы ни было экономически выгодно, применение добавок возможно только при условии полной безвредности их для здоровья. Отношение к пищевым добавкам в мире неоднозначное. Одни применяются практически во всех странах, другие — только частично. Следовательно, продукты, на этикетках которых символ "Е" стоит с рядом цифр (как правило, 3 или 4 цифры) следует расценить не как предостережение для потребителя, а как информацию фирмы — изготовителя о компонатах, входящих в продукт.

Очень часто одна и та же фирма может производить три категории одного и того же продукта: первая — для внутреннего потребления, вторая — для экспорта в развитые государства, третья — для вывоза в развивающиеся страны (кстати, с плохим качеством). К примеру, к третьей категории относятся 80% продуктов питания, сигарет, напитков, а также медикаментов.

***Вот система кодификации пищевых добавок, согласно которой присвоен цифровой код.***

№№ 100-182 — красители
№№ 200-297 — консерванты
№№ 300-391 — антиоксиданты, регуляторы кислотности
№№ 399-501 — загустители, стабилизаторы, эмульгаторы
№№ 530-560 — вещества, препятствующие спеканию
№№ 620-641 — ароматизаторы
№№ 901-915 — желирующие агенты
№№ 916-930 — вещества, препятствующие слеживанию муки
№№ 950-967 — подсластители

**Таблица индексов таких консервантов выглядит следующим образом:**

Е102, Е110, Е124, Е127, Е160А, Е450а — опасен
Е104, Е122, Е141, Е150, Е151, Е161, Е171, Е173, Е180, Е240, Е241, Е477 — сомнителен
Е221, Е224, Е226, Е338, Е340, Е341, Е407, Е407, Е450, Е453, Е455, Е456, Е461, Е462, Е463, Е465 — нарушает пищеварение
Е131, Е142, Е210, Е215, Е239, Е271, Е330 — канцероген
Е103, Е105, Е106, Е111, Е120, Е125, Е126, Е130, Е152, Е191 — запрещен
Е230, Е231, Е232, Е233 — нарушает функции кожи
Е250, Е251, Е252 — противопоказан при гипертонии
Е123 — очень опасен
Е311, Е312 — вызывает сыпь
Е220 — разрушает витамин В1
Е320, Е321 — содержит много холестирина

ГЭТА ЦІКАВА

# У КРОПЛІ КРЫВІ - ЯК У КРОПЛІ ВАДЫ

Калі вы не ведаеце, якая ў вас група крыві, значыць, вы наогул не ведаеце сябе, лічаць японскія вучоныя.

Дэлякур сцвярджае, што група крыві праецыруецца на рысы характару і тэмперамент. А які тэмперамент, такі і характар.

Група крыві 0 (I). Гэта людзі вечнага руху, так можна іх было б назваць. Энергічныя, валодаюць прабіўной сілай, валявыя, з лёгкасцю ўстанаўліваюць кантакты. Іх энергія невычарпальная, яны працуюць нястомна. Невыпадкова жанчыны і мужчыны, якім удалося дамагчыся ў свеце бізнесу, маюць, як правіла, нулявую групу крыві.

Група крыві А (II). Гэта людзі добрасумленныя, выканаўчыя. Упэўнена ідуць уперад у сваёй прафесійнай працы. Усё астатняе яны ацэньваюць, як менш важнае. Калі за што-небудзь бяруцца, то імкнуцца не расчараваць ні сябе, ні іншых. Гэта людзі надзейнасці і даверу. Яны заўсёды застаюцца адданымі людзям, з якімі пасябравалі.

Група крыві В (III). Гэта людзі ўражлівыя, вельмі далікатныя, з вялікімі здольнасцямі. У рабоце, як да сябе, так і да іншых прад'яўляюць высокія патрабаванні. Яны спакойныя, але пад гэтым спакоем часта хаваецца адчувальнае сэрца. Іх пачуцці могуць выбухаць вельмі бурна, асабліва, калі размова ідзе пра каханне. Жынчыны вельмі раўнівыя, значна мацнейшыя, чым мужчыны з гэтай групай крыві.

Група крыві АВ (IV). Гэта асобы, апантаныя пачуццямі. Страсці літаральна раздзіраюць іх, што часта бывае прычынай унутраных супярэчнасцяў, нерашучасці і сумнення. Усе канфлікты яны перажываюць нікому не спавядаючыся. Аднак у каханні, сяброўстве і сямейнасці гэтыя людзі блізкія да ідэалу.

**По материалам печати страницу подготовил Тимур ЮРДЕНОВ**

ШАХМАТЫ

# ЛЕГЕНДА О ШАХМАТНОЙ ИГРЕ

**Шахматы — одна из самых древних игр. Им около двух тысяч лет, и родом они из Индии.**

О происхождении шахмат существует немало красивых легенд, но никто не знает достоверно, когда и кем была изобретена эта игра.

Одна из легенд гласит.

Давным-давно в Индии правил царь по имени то ли Шерам, то ли Шихран. Это было так давно, что его имя затерялось в веках, и никто точно не помнит, как звали индийского правителя. Однажды царю показали, как играют в шахматы, и он пришел в восторг от этой игры. Ему немедленно захотелось узнать имя изобретателя "царицы игр". Придворные доложили, что шахматы придумал один из его подданных — ученый, которого зовут Сета. И царь приказал привести к нему столь изобретательного человека — он пожелал лично выразить ученому свое восхищение и щедро наградить того за такую удачную выдумку.

И вот изобретатель предстал перед троном. Царь сказал:

— Ты создал чудесную игру, мудрец. Проси награду, какую захочешь. Я не пожалею ничего. Такая игра достойна быть забавой царей.

— О, повелитель! Доброта твоя безгранична, — отвечал ученый. — Но меня вполне удовлетворит, если ты прикажешь выдать мне за первую клетку шахматной доски одно пшеничное зерно...

Царь был изумлен.

— Пшеничное зерно?! — переспросил он, посчитав, что ослышался.

— Да, повелитель. Но за вторую клетку прикажи выдать 2 зерна, за третью — 4, за четвертую — 8, за пятую — 16...

— Ты получишь свой мешок зерна, — прервал ученого самонадеянный царь.

Он не скрывал, что был раздражен неожиданным ответом и неподобающей скромностью изобретателя. Поэтому добавил с досадой:

— Но знай, твой выбор недостоин моей щедрости. Ты непочтительно пренебрегаешь ею. Ступай. Слуги тебе скоро вынесут твою пшеницу...

Царь трижды хлопнул в ладони и призвал придворных математиков, чтобы те посчитали, сколько зерен пшеницы причитается в награду глупому изобретателю.

И ученые мужи добросовестно принялись за дело, удваивая число зерен за каждое последующее поле шахматной доски. Компьютеров тогда еще не было, и дело, надо сказать, продвигалось небыстро.

На другое утро царь вспомнил о своем распоряжении и поинтересовался у главного придворного математика, получил ли изобретатель шахмат свою жалкую награду?

Математик с трепетом отвечал:

— О, мой повелитель! Число зерен так велико...

— Как бы велико оно ни было! — гневно перебил его царь, не привыкший, чтобы его приказы выполняли столь нерасторопно. — Награда обещана и должна быть немедленно выдана...

— Но, мой повелитель, нет никакой возможности выполнить твой приказ. Такого числа зерен нет не только в твоих неоскудевающих закромах, но и на всей Земле...

Царь сменил гнев на изумление.

— Назови же мне это невероятное число, — обратился он к главному математику...

— О, повелитель! Это восемнадцать квинтильонов, четыреста сорок шесть квадрильонов семьсот сорок четыре триллиона семьдесят три миллиарда семьсот девять миллионов пятьсот пятьдесят одна тысяча шестьсот пятнадцать!

***

Математики более поздних веков подсчитали, что для такого количества пшеницы потребовался бы амбар высотой 4 метра шириной 10 метров, а длиной в ...300000000 километров, что вдвое больше расстояния от Земли до Солнца!..

Надо думать, что мудрый изобретатель так и не получил свою награду. Но, судя по всему, он на нее и не рассчитывал. Шахматисты же многих и многих поколений всей Земли благодарны древнему мудрецу за то, что он им подарил эту чудесную игру неисчерпаемых возможностей.



**Шахматный конкурс начинаем с решения задач и этюдов с комбинации Х.Бартоловича.**

Белые начинают и ставят мат в два хода. По итогам полугодия победители будут премированы шахматной литературой.

Свои решения присылайте по адресу: *Слоним, ул.Я.Купалы, 5, редакция "Газеты Слонимскай" (с пометкой "Шахматы").*

**Станислав ОЛЬХОВИК**

Малюе
Яўген Іваноў







ПРОВЕРИМ СЕБЯ

# НЕ ПРОСТО КАРАКУЛИ!

Загляните мужу через плечо, когда он, погрузившись в мысли, сам того не замечая, водит карандашом по бумаге. Некоторые эксперты считают, что эти каракули выдают сокровенные мысли и эротические пристрастия...

**КРУЖОЧКИ**

Ваш избранник — искренний, дружелюбный и доброжелательный человек. Скорее всего, он будет хранить вам верность.

**УЛЫБАЮЩИЕСЯ РОЖИЦЫ**

Ваш партнер вполне удовлетворен сексуальной жизнью. Он открыт и беззаботен.

**ТРЕУГОЛЬНИКИ**

По всей видимости, его сексуальные запросы удовлетворить не так-то просто!

**ГУБКИ**

Это чувственный, темпераментный любовник. Он любит страстные поцелуи и получает огромное удовольствие от секса.

**РЕШЕТКА**

Ваш любимый даже в сексе не может до конца расслабиться и насладиться.



ШАШКІ

**У бліжэйшы час будзе аб'яўлены конкурс на лепшае рашэнне шашачных пазіцый. А пакуль у якасці трэніроўкі прапануем для самастойнага рашэння чатыры заданні.**

1. Белыя: b2, b4, c1, d2, g5, h2 (6).
Чорныя: c7, d6, e3, e5, f4, h6 (6).
2. Белыя: b2, e1, e3, f2, f4, g1(6).
Чорныя: c5, c7, e7, g5, h4, h6 (6).
3. Белыя:c1, c3, d2, d4, e3, e5 (6).
Чорныя: a3, a5, e7, f6, g5, g7 (6).
4. Белыя: c7, g1 (2).
Чорныя: f4. h2 (2).

Ва ўсіх пазіцыях белыя пачынаюць і выйграюць. Свае рашэнні дасылайце па працягу двух тыдняў са дня апублікавання па адрасе: *231800, Слонім, вул.Я.Купалы, 5, рэдакцыя "Газеты Слонімскай" (з паметкай "Шашкі").* Празвішчы чытачоў, якія дашлюць правільныя адказы, будуць апублікаваны ў газеце.

**Кандыдат у майстры спорту**
**Аляксандр АНІСЬКА**

АМАЛЬ З НАТУРЫ

# ПРЫЙШЛА ПАРА

Андрэй Тарасюк, калгасны даглядчык жывёлы, паклікаў у чырвоны куток фермы свайго сына Міцю.

— Сынок, пагавару з табою па-мужчынску. Пасля таго, як ты скончыў Сасноўскую школу і сказаў, што хочаш вучыцца на старшыню калгаса, мы з тваёй маці паслалі цябе вучыцца ў Жыровіцкі тэхнікум і патрацілі на тваю вучобу грошы, за якія можна было купіць дзве каровы і бычка. Потым ты захацеў займацца ў Гродзенскім сельгасінстытуце. Мы пяць гадоў цягалі ў Гродна торбы з харчамі, каб ты там не памёр з голаду. Пасля інстытута ты атрымаў вольны дыплом і стаў зусім мажным мужчынам. Лічу, што прыйшла пара, каб ты самастойна ўзяў асобную групу цялят і даглядаў іх разам са мной. Вось і будзем працаваць у калгасе разам.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

Малюе
Кірыл Фархутдзінаў




